# Мы — будучыня

У першы дзень лета, які мы штогод так нецярпліва чакаем, у свеце адзначаецца **Дзень абароны дзяцей**. Гэта значыць — наш дзень. А ад каго нас трэба абараняць? Хіба па вуліцах гарадоў ці вёсак блукаюць дзікія звяры, што кідаюцца на дзяцей? Ды не, драпежнікаў нібы і няма, а тым часам небяспекі — хоць адбаўляй.

Хтосьці з нас баіцца захварэць. Значыць, дарослыя імкнуцца абараніць нас ад хваробаў. У кагосьці няма чаго есці, і тады тое дзіця трэба накарміць. А калі хлопчык альбо дзяўчынка – ратуй, Божа! – трапілі ў аварыю, то іх трэба абагрэць, прытуліць, супакоіць...

Кожнага дня з намі штосьці здараецца. І часам, на жаль, здараецца нядобрае. А паколькі мы яшчэ малыя і не можам самі за сябе пастаяць, то дарослыя і прыдумалі назваць першы дзень лета Днём дзіцяці. Дзеля таго, каб звярнуць сваю ўвагу на тое, што мы, дзеці, іхняя будучыня, а яна мусіць быць шчаслівай.

Найцяжэй, вядома, калі дзяцей трэба абараняць... ад іхніх жа бацькоў. На вялікі жаль... Але спадзяюся, такога не здараецца з нашымі чытачамі. Ва ўсялякім разе, мне вельмі хочацца ў гэта верыць, і я штодня малюся за гэта.

*Пане, падтрымай нас,*
*калі спатыкнемся,*
*падымі, калі няўзнак упадзем.*
*Вызвалі, калі зло прыгняце,*
*а калі ад дабра адвернемся, —*
*змяні нашы сэрцы, бо яны Твае.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*







Данута Бічэль

# ЦУД

Буслік нёс падарунак з нябёс
Ды паклаў асцярожна ў авёс.

Белы птах паляцеў бы далей...
Шнар крыві на белым крыле...

Каласы ціхі ветрык гайдаў,
Нехта смелы ў калысачцы спаў.

Жанчына ішла па расе
Ды знайшла гэты скарб у аўсе.

І сказала так: «Мой ты сынок,
Сінявокі мой, як лянок!»

Віталі бабуля і дзед:
«Асілачак наш, добры дзень!»

Пад анёльскі нябесны спеў
Акуналі ў святую купель.

Дзякуй, Божа, за гэты цуд —
Ты мне выбраў мой родны кут!

«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 2 (52)/2011 г.
Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.
Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.
Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,
мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.
Адрас рэдакцыі: 220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 719/1.
Падпісана да друку 8.06.2011 г. Надрукавана ў «Друкарня Макарава і К» ТАА.
ЛП № 02330/0150429 ад 19.11.2008. Вул. Ф. Скорины, 40-211, 220141 г. Мінск.

Ёанна Кшыжанэк

# *Як старэйшы брат нёс малодшага*

Пасля смерці маці хлопчык Караль жыў толькі з бацькам. Ягоны брат Эдмунд вывучаў медыцыну ў Кракаве і да хаты, у Вадавіцы, прыязджаў толькі на вакацыі і святы. Зазвычай Караль не мог дачакацца ягонага прыезду. У сшытку ён маляваў каляндар, потым закрэсліваў кожны дзень, які мінаў, і тым самым набліжаўся дзень прыезду брата.

Нарэшце той дзень надыходзіў. З самага ранку Караль сядзеў на двары і чакаў, калі на дарозе з'яўлялася братава постаць. І калі бачыў яе нарэшце, радасна крычаў штомоцы ды падскокваў:

— Ідзе! Ідзе! Прыехаў!

Што было потым? Не цяжка зда-



гадацца. Трое мужчын разам гатавалі смачныя стравы, елі і размаўлялі, размаўлялі... Эдмунд распавядаў пра тое, што дзеілася ў Кракаве, а Караль з татам — пра навіны іхніх Вадавіцаў.

Калі Эдмунд здаў апошні экзамен і стаў лекарам, то прыехаў перад пачаткам працы на даўжэйшы адпачынак. Каралевай радасці не было межаў. Яны насмажылі патэльню бульбы і яечню, а калі пачалі есці, зразумелі, што кожны з іх пасаліў яе. І ўсё ж яечня тая была на дзіва смачная!

Назаўтра ўсе трое вырушылі на Ясную Гару, каб падзякаваць Пану Богу за тое, што Эдмунд атрымаў прафесію медыка. У капліцы Маці Божай Чэнстахоўскай доўга маліліся, удзельнічалі ў святой Імшы. Потым гулялі па горадзе, і хоць у Караля моцна разбаleліся ногі, але ён цярпеў тую стому з усіх сілаў. Эдмунд кідаў раз-пораз запытальныя позіркі на малога, але той маўчаў. Нарэшце брат запытаў:

— Караль, можа ты не супраць, каб я паднёс цябе, як носяць барана?

Караль ні хвілінкі не супраціўляўся, але з радасцю залез на падстаўленыя братавы плечы і ўжо з вышыні іх абвясціў:

— Цудоўна гэта — мець старэйшага брата!

— Малодшага таксама добра мець, — засмяяўся Эдмунд у адказ.

А тата, які прыслухоўваўся да іхняй размовы, падсумаваў:

— Добра мець двух такіх сыноў!

Усе пераглянуліся і пырснулі радасным смехам.

Канікулы мінуліся вельмі хутка. Надышоў час развітання, і Эдмунд паехаў у Бельск, дзе атрымаў працу...

*Пераклад з польскай мовы І.С.*

# Дзякуем за Папу Рымскага Яна Паўла ІІ

Прайшло шмат гадоў пасля тае гісторыі. Вядома, ні Эдмунд тады, ні тата не маглі прадбачыць, кім стане для свету іхні Караль. А ён вырас і стаў спачатку святаром, потым біскупам, а пазней — Папам Рымскім Янам Паўлам ІІ. І 1 мая 2011 года ўвесь Каталіцкі Касцёл дзякаваў Пану Богу за яго беатыфікацыю, якая адбылася ў Рыме. Мы ўсе ад гэтага дня маем яшчэ аднаго надзейнага заступніка ў небе. І ад гэтага дня можам прасіць яго ва ўсіх нашых патрэбах:

**— Благаслаўлёны Ян Павел ІІ, маліся за нас!**

# МУЖНАСЦЬ — ГЭТА ДАР

## *«Інтэрв'ю» са святым Андрэем Баболем*



*— Святы Андрэй! Кажуць, ты быў вельмі мужны?*

— Я, разумееш, Яська, не надта пра гэта думаў. Мяне больш займала тое, ці заўсёды я верны Хрысту, бо я ж належаў да закону Таварыства Езуса. Нібы тым самым назваўся Яго сябрам, а ў сяброўстве гэта заўсёды вельмі важна — быць верным.

*— І табе заўсёды шчасціла быць верным?*

— Я ж чалавек, Яська, і ў мяне таксама былі свае слабасці. Сорамна прызнавацца, але напачатку ў мяне быў даволі неўраўнаважаны характар. Я мог моцна раззлавацца на кагосьці, камусьці штосьці сурова выказаць.

*— Ну а калі тыя людзі заслугоўвалі таго, каб з імі гаварыць такім тонам ці нават на іх накрычаць?*

— Няма такіх людзей, Яська. І не было. Сказаць чалавеку праўду пра яго — гэта, вядома, трэба. Але ж рэч у тым, як сказаць! Калі з любоўю, без прыніжэння яго, то добра. А калі ты бярэш на сябе функцыі суровага выхаваўцы ці нават суддзі, то гэта ўжо зусім іншае.




*— А дзе ты служыў?*

— У Вільні і Варшаве, Бабруйску і Полацку, у польскай Ломжы і ў палескім Пінску.

*— Я недзе чытаў, што цябе называлі душахватам. Але ж ты адшукваў тыя душы для Езуса!*

— Вядома. Толькі ваяўнічым казакам гэта якраз і не падабалася. Таму яны мне і адпомсцілі.

*— З незвычайнай жорсткасцю. Калі я чытаў, як цябе мучылі, моцна плакаў. І як ты толькі выцерпеў усе тыя мучэнні?*

— З Божай дапамогай, вядома, бо сам сапраўды не змог бы вытрываць. Але ж Бог бачыць чалавечае сэрца, якое з усіх сіл імкнецца быць верным Яму. Бачыць і ўмацоўвае.

*— Калі цябе мучылі, ты маліўся за сваіх мучыцеляў... Як Езус на Галгоце...*

— Добра, Яська, што ты ўважліва чытаеш Евангелле і заўважаеш у ім такія важныя рэчы. Бо ў Евангеллі для нас ёсць навучанне не толькі, як нам жыць, але і як паміраць. І гэта таксама вельмі важна. Калі мы заўсёды будзем памятаць пра Крыжовы шлях нашага Збаўцы і Яго ўкрыжаванне, то не будзем тады пры любым выпрабаванні наракаць на лёс.

*— Значыць, ты навучыўся мужнасці ў Езуса? А некаторыя мае сябры захапляюцца мужнасцю Тэрмінатара, Чалавека-павука ці яшчэ кагосьці падобнага.*

— Такіх «герояў» у вашым часе сапраўды шмат, і я не дзіўлюся, калі ў вас часта кружыцца ад іх галава ды блытаюцца арыенціры. Таму і трэба заўсёды моцна трымацца галоўнага арыенціра — Езуса. Тады нічога не будзе страшна.

*— Пастараемся. А ты, святы Андрэй Баболя, маліся, калі ласка, за нас у небе, каб мы былі мужныя і верныя Хрысту.*

— Абяцаю. Толькі вы таксама нагадвайце мне час ад часу пра гэта.

*— Ну так, сябры, будзем прасіць нашага шаноўнага госця: «Святы Андрэй Баболя, маліся за нас!»*

*Гутарыў*
*Яська Запытальнік*



# ЧАГО МЫ БАІМСЯ?

У нашым жыцці штодня здараецца столькі цікавага, вясёлага, радаснага! Але побач з усім прыемным існуе і тое, чаго мы баімся, што нас трывожыць, з чым бы мы не хацелі сустрэцца. І гэта таксама трэба ведаць, бо тады чалавек пачынае жыць так, каб пазбегнуць таго, з чым бы ён не хацеў спаткацца, альбо каб загартаваць сябе так, што ніякі страх яму не будзе страшны. Пра тое, чаго мы баімся, разважаюць сёння нашы чытачы з парафіі святога Антонія з Віцебска.



Я вельмі баюся трапіць у турму.

*Аляксандр Замбжыцкі, 7 гадоў.*



Я баюся, што нешта дрэннае можа здарыцца з маімі роднымі. А я іх так моцна люблю!

*Уладзіслаў Рублеўскі, 11 гадоў.*



Калі мы дапускаем шатана ў сваё сэрца, то пачынаем рабіць дрэнныя ўчынкі. Тым самым чынім грэх. Гэта і ёсць тое, чаго я найбольш баюся.

*Станіслаў Бяляўскі, 12 гадоў.*



Я больш за ўсё баюся ўколаў і жудасных сноў.

*Ева Любенка, 7 гадоў.*



Я баюся ўколаў і прышчэпак.

*Давыд Любенка, 6 гадоў.*



Мне страшна, калі на мяне сварацца бацькі за тое, што я іх не слухаюся. Баюся, каб не захварэў мой малодшы брацік... А яшчэ я баюся трапіць у пекла.

*Каця Кімстач, 7 гадоў.*

Я не маю адвагі быць адна ў цемры. А яшчэ я не хацела б сустрэцца на вуліцы з панкамі і вялікімі злымі сабакамі.

*Вольга Шымко*

Баюся цемры, павукоў, змей, прывідаў.

*Павел Крупко, 9 гадоў.*





Баюся ў сваім жыцці чужых і нядобрых людзей.

*Вячаслаў Валюшка, 10 гадоў.*

Больш за ўсё баюся сустрэць на вуліцы маньяка.

*Мікіта Казачонак, 10 гадоў.*



# Адпачывайце і мяне не забывайце

Сябры! Пачалося сонечнае і радаснае лета. Вас чакае шмат цікавага, вясёлага, такога, чым, магчыма, вам захочацца падзяліцца з сябрамі, а то й з усімі чытачамі нашага часопіса. У вас ёсць такая магчымасць!

Напрыканцы лета, калі вы ўжо пабудзеце ў лагерах адпачынку, павандруеце там, дзе раней ніколі не былі, калі сходзіце ў пілігрымкі і загоіце мазалі на нагах, запрашаю вас усё ж узяцца за ручку ды паперу і напісаць нам. Раскажыце, што цікавага вы перажылі, што бачылі, дзе былі, каго сустрэлі.

Вашыя допісы і здымкі, а, магчыма, і малюнкі, мы пастараемся надрукаваць. Аўтар самага цікавага ліста альбо нечаканых, арыгінальных здымкаў атрымае прыз.

Чакаю вашых лістоў! Толькі не марудзьце, калі ласка. Апошні тэрмін вашых паведамленняў — да 20 жніўня 2011 года.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# Міністранты гуляюць у футбол

Турнір па міні-футболе на кубак біскупа Віцебскага Уладзіслава Бліна прайшоў у г.п.Дзісна, што Міёршчыне. У ім прынялі ўдзел міністранты з Міёраў, Дзісны, Глыбокага, Лучая. Парафія Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі з Дзісны прадставіла на турніры дзве каманды: міністрантаў і каманду юнакоў Дзісненскага дзіцячага дома. Яны ж, дарэчы, і выйшлі ў фінал. А пераможцамі турніру сталі выхаванцы дзіцячага дома.

Шчасцю і радасці і футбалістаў, і балельшчыкаў не было мяжы. Гэта была заслужаная перамога! Пасля ўручэння ганаровых узнагародаў удзельнікаў турніру чакаў смачны пачастунак.






На наступны дзень чэмпіёны прыйшлі на нядзельную святую Імшу і падзякавалі Пану Богу за свае таленты і магчымасць дзяліцца імі з іншымі. Дзісненскі дзіцячы дом наведаў біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін, які павіншаваў футбалістаў з перамогай і ўзнагародзіў дзяцей падарункамі.

*Кс. Аляксандр Грыцкевіч.*
*Фота аўтара.*



Ксёндз Ян Твардоўскі

# Чаго баіцца д’ябал?

**Д’ябал баіцца трох рэчаў.**

**Баіцца свянцонай вады, бо сам ён мурза і ніколі не мыецца.**

**Баіцца слова «Амэн», бо гэтае слова азначае: «Няхай будзе так, як хоча Пан Бог». А д’ябал жа наадварот — хоча, каб усё было па-ягонаму.**

**Баіцца слова «Аллелюя», бо гэтае слова азначае: «Радуймася: Пан Езус паўстаў з мёртвых! Пан Езус ёсць з намі!»**

**А д’ябал, тым часам, сумны, не хоча радавацца, адно толькі крывіцца ды ўвесь час робіць усё на злосць.**

***Нават суніцы чырвоныя***
***Хацеў бы ён змесці хвастом.***





Ганна Старыковіч

# Анёл-ахоўнік

## Казка

Бог паклікаў да сябе Анёла і сказаў:

— Ідзі на Зямлю. Там зарадзілася новае жыццё. Цяпер ты будзеш абаронцам хлопчыка Юрыя.

Анёл паслухмяна спусціўся на Зямлю і адразу ж знайшоў жанчыну, якая нядаўна зацяжарыла. Спачатку ён павітаўся з яе Анёлам, таму што разам ім трэба было супрацоўнічаць доўгі час. Затым ён паглядзеў на хлопчыка, якога будзе ахоўваць, і той яму спадабаўся. Анёл зразумеў, што той вырасце прыгожым і разумным, а таксама таленавітым.

Анёл стаў паказваць хлопчыку рознакаляровыя сны аб яго будучым жыцці, аб тым, што калісьці адбывалася з яго мамай і татам. Ён паказваў яму ў сне жывёлаў і кветкі, і ўсё толькі прыгожае. Дзеля таго, каб дзіцяці было прыемна і ўтульна ў маці пад сэрцам.

Але аднойчы ледзь не адбылося няшчасце. Калі маламу было ўжо сем месяцаў, мама з татам трапілі ў аўтамабільную аварыю. За некалькі секунд да сутыкнення з іншай машынай, не маючы магчымасці прадухіліць тое, што наканавана, абодва Анёлы раскрылі шырокія крылы і абаранілі маленькага Юрачку, які яшчэ не нарадзіўся, ад удару. Усё абышлося, і потым Анёл даўжэй, чым звычайна, паказваў хлопчыку рознакаляровыя малюнкі з катамі, сабакамі, коньмі і ягонымі ўсмешлівымі бацькамі.

Падчас родаў абодва Анёлы неадступна стаялі каля мамы, а калі маленькі Юра нарэшце з’явіўся на свет, Анёл ахінуў яго крыламі і прашаптаў: «Нічога не бойся, я з табой». Хлопчык адразу перастаў плакаць, супакоіўся і заснуў.

Анёл любіў забаўляць дзіця, калі яно ляжала ў калысцы або смактала малако з бутэлечкі, калі маці трымала яго на руках. Анёл кружляў у паветры, расхінаў і складваў крылы, а хлопчык радасна ўсміхаўся. Мама з татам нават не здагадваліся, што гэта так весяліць сына і за кім ён так уважліва назірае.

Аднойчы ў іх у гасцях была прабабуля хлопчыка. Яна паглядзела на дзіця, якое ўсміхалася, пазіраючы на сцяну, і сказала: «Анёлы ба-





вяцца». Анёл тады нават насцярожыўся: ці не бачыць яго бабулька? Але яна не бачыла, яна проста ведала.

Хлопчык падрастаў, і ў Анёла прыбаўлялася клопату. Аднойчы сусед неасцярожна скінуў кнігу з кніжнай паліцы. Анёл накрыў галаву Юркі крылом — і кніга праляцела міма. Другім разам хлопчык, калі ўжо самастойна хадзіў, спатыкнуўся і падаў проста на востры вугал шафы. Бацькі вярталіся з прагулянкі і былі яшчэ ў калідоры, а малеча, як заўсёды, вырваўся наперад... Ніхто, акрамя самога дзіцяці, не бачыў, як Анёл падхапіў яго і паставіў на ногі.

Уначы Анёл-Абаронца ахоўваў сон дзіцяці, не даючы, каб нехта злосны паказваў яму страшныя карцінкі. І з раніцы малеча заўсёды найперш бачыў менавіта свайго Анёла, размаўляў з ім, а бацькам заставалася толькі здагадвацца, з кім так радасна й шчасліва лапоча іх сынок.

Калі Юру споўнілася тры гады і ён быў адзін у пакоі, Анёл сказаў яму:

— Заўтра ты прачнешся і не ўбачыш мяне.

— Чаму? — спытаў хлопчык, складаючы сценку з кубікаў.

— Ты падрастаеш і ўжо добра размаўляеш. Ты можаш выдаць сакрэт нашага сяброўства.

— А ты пойдзеш да... Яго?

— Не, я застануся з табой і буду заўсёды ахоўваць цябе. Адно што ты больш не зможаш бачыць і чуць мяне. Але ты не бойся: я буду заўсёды побач з табой, а калі прыйдзе адпаведны час, я павяду цябе да Яго. Дай абдыму цябе на развітанне.

Малы шырока развёў рукі, і калі б хто-небудзь увайшоў у той момант у пакой, то падумаў бы, што дзіця абдымаецца з... паветрам.

Больш Юрка ўжо не бачыў такой звыклай і роднай усмешкі Анёла. І ён, вядома ж, не памятаў, што яшчэ да нараджэння сама Дабрыня aбeрагала і забаўляла яго. Такая ўжо ў іх служба, у нашых анёлаў — непрыкметная...





«Сонечная даліна» ў Крыме настолькі сонечная, што ажно вачам немагчыма ярка. Але цудоўна! Гэта можа пацвердзіць Мацвей Навойчык з Наваполацка. Калі ён прыязджае ў Крым разам з мамай, татам і сястрой, усе яны вельмі шчаслівыя. І нават мясцовыя крабы радуюцца Мацвееваму прыезду!




# І ты ў гэтым свеце




Мінчане Ян і Марк Гародкі — браты. А яшчэ яны надзейныя сябры, і ім заўсёды добра быць разам. А калі Ян з Маркам выязджаюць адпачываць — іхняй радасці няма межаў. Як, напрыклад, у Клайпедзе, у гэтым цудоўным горадзе на беразе не менш цудоўнага мора!



*З краёў далёкіх*

# У ВЯСЁЛКАВАЙ ІНДЫІ



Здагадваюся, сябры, што ўсе вы любіце падарожнічаць. Я, прызнаюся, таксама. Таму хачу падзяліцца з вамі сваімі незабыўнымі ўражаннямі ад леташняй паездкі ў Індыю. Дакладней кажучы, мы туды не ездзілі, а лёталі на самалёце, бо Індыя знаходзіцца ад Беларусі за тысячы кіламетраў.

Індыя нашмат большая за нашу краіну, і жыхароў у ёй прыкладна ў 120 разоў больш, чым у Беларусі. А яшчэ Індыя — гэта краіна сонца, там дзень вельмі доўгі, а ночы кароткія. А надвор'е такое спякотнае, што на поўдні, напрыклад, тэмпература ўлетку дасягае амаль +50°, а ўзімку рэдка паніжаецца да +24°! Самы аддалены ад Беларусі куток Індыі знаходзіцца амаль што над экватарам, і яго берагі абмывае Індыйскі акіян. Вада ў ім цёплая, нібы падагрэтая.



На беразе гэтага акіяна, у невялікім, паводле

індыйскіх меркаў, гарадку Вайланкані знаходзіцца каталіцкі санктуарый Маці Божай. Гэтак жа, як у Беларусі шмат вернікаў імкнецца наведаць святыню Маці Божай у Будславе, так у Індыі вернікі любяць храм Марыі ў Вайланкані. Уявіце сабе, што на галоўнай урачыстасці тут прысутнічае звычайна каля мільёна чалавек!

Ну а якое ж свята без дзяцей? Вядома, іх тут таксама бывае шмат. Прызнацца, у вочы кінулася тое, што індыйскія дзеці выглядаюць больш гарэзлівымі і адважнымі. Паколькі надвор’е ў Індыі спякотнае, то і дзеці, і дарослыя апранаюцца лёгка і проста. Вопратка індыйскіх вернікаў мае вясёлкавыя колеры, яна вельмі яркая. На Імшы дзеці заўсёды знаходзяцца ў першых радах, амаль пры алтары. Паводле шматгадовай традыцыі, з пашаны да святыні, у якой прабывае Бог, свой абутак вернікі пакідаюць на касцёльным пляцы, а ў святыню ўваходзяць босыя. Напачатку гэта было нязвыкла, а потым нават і спадабалася.



Хлеб у Індыі замяняе рыс, які расце блізка ад вадаёмаў. Ягоны ўраджай тут збіраюць тры альбо чатыры разы ў год. Індыйскія харчовыя крамы перапоўненыя экзатычнымі фруктамі: тут на кожным кроку ўбачыш манга, памэла, какосы, ананасы, бананы, ківі, авакада і шмат іншых фруктаў, якія, на жаль, не растуць у нас. Але затое для Індыі з'яўляюцца экзотыкай яблыкі і грушы. Іх сюды прывозяць у асноўным з еўрапейскіх краінаў, і каштуюць яны вельмі дорага.

Не ўбачыш у Індыі і беларускіх бярозак ды соснаў, затое там паўсюль высяцца пальмы, шмат бананавых плантацый, эўкаліптаў, імбіру, а таксама іншых дрэваў і раслінаў, якіх не сустрэнеш у нас. Як здагадваецеся, сябры, у гэтых экзатычных раслінах і дрэвах жывуць не беларускія сінічкі да салаўі, але вялікія і маленькія рознакаляровыя індыйскія папугаі. Праўда, паразмаўляць з імі не давялося. Мабыць, галоўная прычына ў тым, што мовы нашыя вельмі розныя!..

І ведаеце, пра што думалася мне ў Індыі? Найбольш пра тое, што мы, беларусы, у многім, вядома, адрозніваемся ад жыхароў Індыі. Але ёсць тое, што нас моцна яднае, — вера ў Бога. Значная частка жыхароў Індыі ведае і любіць Езуса Хрыста і Яго Маці. Таму з гэтымі людзьмі нас яднае так шмат!

*Айцец марыянін*
*Міхаіл Цвячкоўскі*






# Спасланне Святога Духа

**Кніга Дзеяў святых Апосталаў**
*Раздзел 2, вершы 1–4*

Калі настаў дзень Пяцідзясятніцы, усе былі разам на адным месцы. І раптам узняўся шум з неба, нібы павеў моцнага ветру, і напоўніў увесь дом, дзе сядзелі яны. І з’явіліся ім языкі падзеленыя, быццам ад агню, і затрымаліся на кожным з іх. І напоўніліся ўсе Духам Святым, і пачалі гаварыць на іншых мовах, як Дух даваў ім прамаўляць.





# Радасць і святло

Ад таго дня, калі Езус благаславіў іх і ўзнёсся ў неба, Маці Божая і апосталы трывалі на малітве і чакалі Суцяшыцеля, якога Ён абяцаў ім паслаць. Нялёгка гэта — маліцца некалькі дзён запар. Але яны не адступаліся, бо моцна верылі свайму Настаўніку. Яны верылі ў тое, што для Бога няма немагчымага, верылі, што Ён пачуе іхнія малітвы, нягледзячы на тое, што яны моляцца ціха ў зачыненым Вячэрніку.

І раптам... зашумеў у пакоі моцны вецер, і з'явіліся невядома адкуль агнявыя языкі над галовамі людзей... А ў іхніх душах запалілася вялікая радасць, тая, якую немагчыма трымаць у сабе, якой трэба дзяліцца з іншымі — тады яна пачынае расці і ахопліваць усіх... Вучні спявалі, танцавалі, гаварылі на розных мовах, радаваліся. Гэта было свята! Яны выбеглі вонкі... Там стаяў натоўп людзей, які хацеў зразумець, што ж адбываецца з гэтымі веселунамі? І тады Пётр пачаў прамаўляць да людзей. Ён упершыню ў жыцці гаварыў так шмат і так прыгожа! І... людзі паверылі яму, паверылі і ахрысціліся ў імя Езуса Хрыста! Так моцаю Духа Святога праз вучняў Езуса пачало распаўсюджвацца Евангелле.

...Калі суцішыш у сабе ўсё і будзеш размаўляць з Богам, магчыма, таксама аднойчы адчуеш, як Хтосьці дакрануся да тваіх думак і сэрца. Ты адчуеш радасць у сэрцы і бляск святла. Мабыць, ты ўжо здагадваешся, Хто ў такія хвіліны наведвае цябе...



# Гульні Загадкі

## Летні пейзаж

Дапасуй хмаркі і кветкі да пустых месцаў у летнім пейзажы. Чытаючы літаркі радамі, ты прачытаеш... пытанне, на якое трэба даць правільны адказ.

су пры ні ова т

на ад час жа мо Хто


















## Смяшынкі-весялінкі

### Дыета

Святар распавядае дзецям пра цуд размнажэння хлеба і рыбаў.

— Пра што сведчыць тое, што пасля людзі набралі ажно 12 кашоў з астаткамі? — запытаў ён у дзяцей.

— Людзі баяліся папраўдзіца і таму не з'елі ўсё. Мабыць, у іх была суровая дыета, — адказала Палінка.



### Сябар

На ўроку біялогіі настаўнік пытае вучняў:

— Хто найлепшы чацверанога сябар чалавека?

— Ложак, — адказаў Уладзік.

# Загадкі з Евангелля

Сябры! Мы вельмі рады, што многія з вас ахвотна адгадваюць нашы «Загадкі з Евангелля». Некаторыя ўжо па некалькі разоў дасылаюць нам адказы. Часам здараюцца памылкі. Але ж гэта цалкам нармальна! Галоўнае, што вы шукаеце адказы на нашы пытанні ў самай мудрай кнізе — у Евангеллі. Ганна Быхавец з Полаччыны напісала нам, што дзякуючы гэтым загадкам яна навучылася карыстацца Бібліяй. Нас гэта вельмі парадавала, бо такую мы і ставім задачу. Асабліва нас радуюць тыя дзеці, якія прысылаюць адказы і на іншыя заданні часопіса.

З гэтага нумара мы вырашылі трохі ўскладніць «Загадкі з Евангелля». Дзеля таго, каб яны былі цікавейшыя. Так што будзьце ўважлівыя. Поспехаў!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

- Каго трэба баяцца хрысціяніну? (Ян 10, 26–33)
- Чаму памёр Ананія? (Дзеі 5, 1–5)
- Якую боязь называюць дарам Божым? (Катэхізіс Каталіцкага Касцёла)
- Ці правільна зрабіў Ірад, выканаўшы абяцанае? (Мк 6, 17–29)
- Кім стаў Стэфан пасля таго, як габрэі расправіліся з ім? (Дзеі 7, 54–60)
- Чаго баіцца д’ябал? (1П 5, 8–11)
- На якім моры адбыліся падзеі, апісаныя ў Евангеллі ад Лукі (8, 22–25)
- Чаму Езус выгнаў людзей са святыні? (Мц 21, 12–13)
- Што трэба, каб табе людзі прабачалі? (Мк 11, 25–26)
- Які чалавек па-сапраўднаму багаты? (Лк 12, 16–21)

*Адказы на* **«Загадкі з Евангелля»,** *змешчаныя ў №1 за 2011 г.*

Даў сілу над дэманамі і аздараўляць хворых; дакрануцца да Езуса; вера; ускладаў рукі; 38 гадоў; цуды аздараўлення і вызвалення ад нячыстых духаў; зрабіўшы гразь і памазаўшы ёю вочы хворага; цешчай; начальнікам сінагогі; разабралі дах дома, у якім знаходзіўся Езус, і спусцілі да Яго хворага.

Узнагароды за дакладныя і поўныя адказы ад ксяндза Сяргея Сурыновіча атрымаюць: **Яна Ананька**, **Маша Лычкоўская**, **Ганна Быхавец** з Полацка, **Валерый Баліко**, **Улад Скур’ят**, **Юля Прошка**, **Міша Касцюкевіч**, **Вікторыя Вопручкава**, **Юля Юхневіч**, **Вераніка Пархуткіна**, **Сняжана** і **Таня Сапель** з Браслава, **Уладзік Адахоўскі** з в. Жвірына Браслаўскага р-на, **Мацвей Навойчык** і **Насця Падоба** з Наваполацка, **Міша Галубіхін**, **Ганна Ермакова** і **Яна Баброўская** з Чэрвеня, **Мікола Томкавіч** з Вілейкі.

# Прыгоды ксяндзаЛявона

## Дзякуй, што нарадзіўся!

На касцельным пляцы садзілі кветкі, і ксёндз Лявон быў на сёмым небе ад радасці, бо працаваць прыйшло ажно 12 жанчын, пяцёра хлопцаў і дзяўчат дапамагалі ім. І нават тры мужчыны знайшліся ды ўзялі ў рукі рыдлёўкі. Словам, рабі-рабі ды папраўся!

Але ў самы разгар тае працы выйшла мітрэнга. Перад ксяндзом Лявонам, нібы аднекуль ці то з-пад зямлі, ці наадварот — з нябёсаў вырас хлопчык гадоў трох — ну зусім яшчэ не працаўнік. Тузануў малы ксяндза Лявона за сутану, задраў залацістую галоўку ўгору і радасна выгукнуў:



— Дзякуй табе, ксёндз Лявон, што я нала-дзіў-ся!

Запала ціша. Адно што вядро ў цёткі Алёны жаласна бразнула ды дзядзька Андрэй закашляўся раптам у кулак. Парушыў тую цішу ксёндз Лявон, бо некаму ж трэба было штосьці ўрэшце сказаць.

— А-а-а... адкуль жа ты, хлопча? Дзе твае мама з татам?

Але рызыка чамусьці вобмельгам пакінула хлопчыка, ён крутнуўся і пабег да брамы, а ад яе ўжо ішла маладая жанчына. Яна падхапіла малога на рукі, наблізілася з ім да ксяндза Лявона, заўсміхалася:

— Не памятаеце мяне? — І сама ж адказала: — Ну дзе вы там будзеце памятаць — у вас вунь колькі людзей штодня перад вачыма... Мы з вамі ехалі неяк у цягніку, тры гады таму... З Вілейкі ў Менск я ехала, плакала шмат ды паскардзілася вам на сваю бяду. Што дзіця маю пад сэрцам, а кватэры няма... І ўсё так кепска было тады ў мяне, так кепска... А вы, ксёндз Лявон, сказалі тады, што дзіця — гэта радасць і нельга наракаць на тое, што Бог паслаў яго, — жанчына засмяялася і гучна чмокнула сына ў шчаку: — Радасць ты мая! Вось мы і прыехалі... падзякаваць!

— А-а-а... дзе ж ваш... тата?

— У масыне! — ускрыкнуў пасмялелы хлопчык. — Ён у нас такі саламлівы — плоста стлах!

Хлопчыкавы словы патанулі ў смеху, а потым усе ўадначас з палёгкай загаманілі пра тое, як добра, як радасна гэта — дзякаваць за жыццё. Пані Міхаліна прынесла ксяндзу Лявону кубак вады, ён выпіў яго нагбом і сказаў малому:

— Я, ведаеш, таксама вельмі рады, што ты нарадзіўся!

*Прыгоду запісала І. Ж.*



# Галерэйка



*«У Кане Галілейскай».
Арцём Тумко,
г.п. Астравец.*



*«Маёвае».
Наташа Бобрык,
г. Навапалацк.*



*«Малітва».
Вераніка Гайдуковіч,
г.п. Астравец.*



*«Наш касцёл».
Уладзіслаў Балаш,
г. Вілейка.*



*«Аздараўленне».
Сямён Ромаш,
г.п. Астравец.*





Алесь Пісьмянкоў

# Неба, ластаўкі і я

Прагну свежасці і ветру,
Хай парушаць мой спакой,
Рэжце,
Ластаўкі,
Паветра,
Над распаранай зямлёй.
Раскудлаць ты,
Вецер,
Грушу,
Усхвалюй і растрывож.
Ну наплач мне,
Неба,
Лужу,
Каб пабегчы басанож.